# Ніва

 БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК 

№ 47 (926) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 25 ЛІСТАПАДА 1973 г. ЦАНА 60 гр.


## З вопыту начальніка гміны

Ужо ведаем: калі распачнуць дзейнасць новавыбраныя **мясцовыя** рады, дзяржаўнай **адміністрацыяй** у паветах кіраваць будуць **начальнікі паветаў**, а ў ваяводствах — **ваяводы.**

Гэта далейшае паслядоўнае развіццё адміністрацыйнай рэформы, ажыццяўленне якой пачалося ад утварэння гмін і ўстанаўлення гмінных начальнікаў. Вопыт у іх дзейнасці з'яўляецца цяпер багатай крыніцай ведаў для адміністрацыйных пераўтварэнняў на вышэйшым узроўні. Які гэта вопыт? Што з яго вынікае?

Адказу на гэтыя пытанні, шукаў я ў Гайнаўскім павеце.

Намеснік старшыні прэзідыума ПРН у Гайнаўцы, інжынер Вацлаў Цэглярскі, адказны за сельскую гаспадарку, сказаў мне:

— Нам цяпер непараўнальна лягчэй арганізоўваць сельскагаспадарчую вытворчасць. Доказ гэтаму — жніво на Гайнаўшчыне закончылі мы сёлета на 21 дзень раней, чым у мінулым годзе.

Сакратар па сельскагаспадарчых справах павятовага камітэта партыі, тав. Рышард Дваракоўскі сцвердзіў:

— Амаль гадавы вопыт у дзейнасці начальнікаў гмін поўнасцю апраўдаў нашы надзеі. Гмінныя праўленні сталі добрымі арганізатарамі гаспадарчага і грамадскага жыцця сваёй тэрыторыі.

— Гайнаўскі павет падзелены цяпер на восем гмін. Каго з іх начальнікаў перш за ўсё варта наведаць?

— Нялёгка так адразу раздзяляць заслугі і засцярогі, — гаворыць сакратар Дваракоўскі. — У кожнага з начальнікаў гмін знайшлося б адно і другое. Аднак раіў бы вам паехаць у Дубічы Царкоўныя — да Чыквіна. Ён раней быў старшынёю тамашняга прэзідыума ГРН і па нашай рэкамендацыі надалей кіруе новай Дубіцкай гмінай, якая цяпер — адна з лепшых у нашым павеце.

Гэту апінію пацвердзіў таксама першы сакратар павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы тав. Людвік Бартосяк. Дык накіраваўся я ў Дубічы Царкоўныя. У апошніх гадах вёска шматзначна змяніла свой воблік. Паявіліся новыя, пераважна мураваныя дамы (на здымку), добра ўпарадкаваная вуліца. Сапраўды, відаць тут рука карпатлівага гаспадара. Дубічы заваявалі першае месца па рэалізацыі грамадскіх абавязацельстваў у гонар 25-годдзя ПНР, за што атрымалі двухсоттысячную ўзнагароду, якую насельніцтва прызначыла на аднаўленне выгляду вёскі і на рамонт святліцы, дзе неўзабаве размесціцца вясковы клуб.

На тэрыторыі Дубіцкай гміны знаходзіцца зараз 27 вёсак, аб'ядназых у 17 салэцтваў, у якіх жыве звыш тысячы гаспадароў.

— Ці цяжка быць начальнікам гміны? — пытаю тав. Чыквіна.

— Ці цяжка? — задумаўся начальнік. — А вам цяжка быць журналістам?

— Неяк спраўляюся...

— Я таксама.

Мы паглядзелі адзін на другога і абодва рассмяяліся. А пасля, ужо за кавай, якую падрыхтавала прыгожая бухгалтарша Зінка, пайшла ў нас гутарка пра начальніцкі вопыт.

— Самым істотным у працы начальніка гміны, — гаварыў таварыш Чыквін, — я лічу тое, што цяпер не мушу кожнай дробяззю заварочваць галаву павятоваму начальству. Начальнік гміны можа і павінен кіраваць супрацоўніцтвам такіх установаў, як ГС, міжгурткоўскія машынна-трактарныя базы, сельскагаспадарчыя гурткі, спулдзельчы банк і іншыя.

— І што ў вас атрымалася ад гэтага кіравання?

— А вось што, паслухайце: перад жнівом мы супольна з грамадскім і партыйным актывам склалі дакладны план выкарыстання жніўнай тэхнікі і рашуча патрабавалі поўнай рэалізацыі гэтага плана. Дзякуючы гэтаму мы хутчэй справіліся са жнівом і абмалотамі, а ГС прыняў больш збожжа непасрэдна з панадворкаў гаспадароў.

Ведаем, колькі клопату дастаўляла сялянам нарыхтоўка будаўнічых матэрыялаў. Цяпер будаўнічымі справамі ў гміне займаецца адпаведна падрыхтаваны чалавек. Мы рашылі пайсці яшчэ далей. **Дагаварыліся** з ГС-ам, каб яны, замест дастаўляць матэрыялы з вагонаў у свае склады, адразу ўласным транспартам адвозілі іх у вёскі — па спіску, падрыхтаваным нашым гмінным праўленнем. Кошт транспарту ў гэтым выпадку або нязначна, або зусім не павышаецца, але ашчаднасць часу для гаспадароў вялікая. Такім чынам набылі цэглу, цэмент, сіпарэкс і пустакі жыхары Дубічаў Царкоўных: Сяргей Тарасюк, Пятро Стэпанюк, Мікалай Стара-

**(Працяг на стар. 4)**



*Васількаў (Беластоцкі павет).* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## БГКТ хроніка

■ У гуртках БГКТ на Гайнаўшчыне адбываюцца справаздачныя, а дзе трэба, і справаздачна-выбарныя сходы. Нядаўна адбыўся справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Гародчыне. У склад новага праўлення гуртка ўвайшлі: Валянціна Ціханюк (старшыня), Рыгор Сельвяструк, Марыя Антасюк і Валя Леўчук. На сходзе 8 чалавек падпісалі членскія дэкларацыі БГКТ і былі прыняты ў рады Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Па ініцыятыве новага праўлення гуртка БГКТ на гэтым жа сходзе прысутныя пастанавілі ўтварыць гурток таварыства польска-савецкай дружбы. Усе члены БГКТ выразілі жаданне быць членамі ТППР і пастанавілі, што члены праўлення гуртка БГКТ будуць таксама членамі праўлення гуртка ТППР.

■ Па ініцыятыве праўлення гуртка БГКТ у Збучы таксама ўтвораны гурток ТППР-у, членамі яго з'яўляюцца ўсе члены БГКТ, а старшынёй выбраны старшыня гуртка БГКТ Канстанцін Лаўрэшук.

■ У канцы кастрычніка члены гуртка БГКТ у **Доўгім** Бродзе на сваім справаздачна-выбарным сходзе падсумавалі ранейшую дзейнасць гуртка і намецілі далейшыя напрамкі яго працы. Новае праўленне гуртка БГКТ складаецца з наступных асоб: Яўгень Хмара — старшыня, Міраслаў Ваппа — сакратар і Зінаіда Хмара — скарбнік. На гэтым жа сходзе ў рады БГКТ было прынята дзесяць новых членаў.

■ Нядаўна адбыўся таксама справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Дубічах Царкоўных. Пасля абмяркоўкі справаздачнага даклада і далейшых напрамкаў дзейнасці, было выбрана новае праўленне гуртка, у склад якога ўвайшлі: Лідзія Герасімюк — старшыня, Яўгенія Хіліманюк — сакратар і Ніна Петручук — скарбнік.

■ 6 кастрычніка беларускі калектыў песні і танца „Белавежа“ з гайнаўскага аддзела БГКТ выступіў з канцэртам у доме культуры „Гурнік“ на павятовай акадэміі ў Гайнаўцы, прысвечанай 56 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

■ Харавы калектыў бельскага аддзела БГКТ 6 кастрычніка таксама даў канцэрт на павятовай акадэміі з нагоды гадавіны Вялікага Кастрычніка.

■ **На пасяджэнні** прэзідыума бельскага аддзела БГКТ (адбылося 10.XI.) абмяркоўваліся арганізацыйныя справы, звязаныя з песенным конкурсам, а таксама справы з адбываючайся справаздачнай кампаніі ў гуртках БГКТ Бельшчыны.

■ Пад кіраўніцтвам Івана Шыманюка ў Семяноўцы працаваў мастацкі калектыў гуртка БГКТ. У апошні час аслабла яго дзейнасць, паколькі Іван Шыманюк выбыў з вёскі на вайсковую службу. Нядаўна ён вярнуўся з арміі і пачаў працаваць над тым, каб мастацкі калектыў Семяноўкі зноў шырока разгарнуў культурна-асветную працу. (мх)

## Праз тыдзень у „Ніве“

**Ляўкова — вёска прамысловая ● Жывёлагадоўля на Гайнаўшчыне ● Літаратурная старонка ● Карусь Каганец ● Сустрэчы з кандыдатамі ў рады нарадовыя ● Конкурс: што ведаеш аб туберкулёзе і алкагалізме? ● Мельнік на крэйдзе стаіць ● ● Весткі з Клейнік, Збуча, Нараўкі, Сухавольцаў, Кляшчэляў, Бельска, Плёскаў, Парцава, Міхалова, Лапухоўкі і інш. ● Песьня „To był świat w zupełnie starym stylu”.**

## Традыцыйны метад такой розніцы не вылаўлівае...

## Сустрэчы з землякамі



— У вітрынах навуковых кнігарняў, — звяртаюся да дац. др габ. Ігара Цімафеюка, навуковага супрацоўніка Інстытута эканамічных навук Варшаўскага універсітэта, — стаяць побач дзве Вашы кніжкі: другое, дапоўненае выданне працы, аснаванай на доктарскай дысертацыі[1]) і габілітацыйная дысертацыя[2]). 13 верасня Вы выступалі па тэлебачанню, а 16 кастрычніка па радыё і гаварылі аб істотных праблемах нацыянальнага даходу. Ці не захацелі б сказаць Вы і нашым чытачам некалькі слоў пра сваё жыццё і працу? Усё ж Вы, сын селяніна, заўсёды займаліся не толькі прафесійнай, але таксама і грамадскай працай, а ўжо ў 35 год атрымалі навуковую ступень габілітаванага доктара.

**(Працяг на стар. 4)**

Вялікая зала святліцы фабрыкі прылад і ўхвытаў у Беластоку запоўнена па апошняе месца. Сюды прыйшлі прадстаўнікі завадскога калектыву ФПіУ, а таксама прадстаўнікі 18 іншых фабрык, прадпрыемстваў і ўстаноў.

За ганаровым сталом месца займае кандыдат у радныя ВРН, член ЦК, I сакратар ВК ПАРП **Здзіслаў Куроўскі**, кандыдаты ў радныя МРН: член экзекутывы ВК ПАРП, I сакратар ГК ПАРП — **Рамуальд Жукоўскі**, член экзекутывы ГК ПАРП старшыня прэзідыума МРН — **Аляксандр Чуж**, прадстаўніца фабрыкі імя Сяржана, а таксама кандыдаты ў радныя ад калектыву „Ухвытаў": **Мікалай Харкевіч**, **Анна Чаркоўская**, **Яўген Корсак** і **Казімір Жынэль**.

Пачынаецца першая ў ваяводстве сустрэча з кандыдатамі ў радныя ваяводскай і гарадской рады нарадовай. На франтовай сцяне святліцы стылізаваны арол, сімвал дзяржаўнага герба, а на ім надпіс: „Праграма I Краёвай канферэнцыі ПАРП — наша праграма". Гэта лозунг сустрэчы, лозунг выбарнай кампаніі.




Невыпадкова сустрэча адбывалася іменна ва „Ухвытах". Калектыў гэтай фабрыкі абавязаўся даць у гэтым годзе дадатковую прадукцыю, вартасць якой 2,8 мільёна зл. Калі адбывалася сустрэча, прадстаўнікі фабрыкі далажылі, што ўжо выканана дадатковай прадукцыі на 2,6 мільёнаў зл. Шмат, бо больш 2 тыс. гадзін рабочыя працавалі грамадскім чынам пры разбудове фабрыкі. Гэта толькі некаторыя прыклады добрай працы самаахвярнага калектыву. Вырабы беластоцкіх „Ухвытаў" — гэта добрая марка. Знаюць пра гэта не толькі ў краіне, але і за яе межамі. Фабрыка экспартуе свае вырабы ў многія краіны свету, а найбольш — у Савецкі Саюз.

Слова бярэ Здзіслаў Куроўскі, кандыдат у радныя ВРН з горада Беластока.

— Усебаковае, хуткае развіццё нашай краіны, павялічваючаяся яе гаспадарнасць, эканамічная сіла і міжнародны аўтарытэт — гэта прычына для задавальнення ўсіх палякаў, — гаварыў тав. З. Куроўскі. Але права да асаблівага задавальнення маюць тыя, хто добра працуе, хто з'яўляецца наватарам і ініцыятарам дзеяння, хто прысяшае развіццё і багацце нашай краіны. Тыя, якіх мы называем людзьмі добрай работы.


*Выступае I сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі.*

Высока ацэнен факт, што добрыя вынікі ў галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасці спрыялі ўмацаванню сярод насельніцтва Беластоцкага рэгіёна веры ў свае сілы, адвагі думкі і дзеяння, ўмацаванню пераканання, што можам зрабіць больш. Вымоўным прыкладам вышэй сказанага з'яўляецца 40-працэнтнае павелічэнне вартасці прамысловай прадукцыі і 27-працэнтнае павелічэнне валавой сельскагаспадарчай прадукцыі на працягу апошніх трох год.

— Пераходзячы на вышэйшы этап развіцця нашай гаспадаркі, — гаварыў тав. З. Куроўскі, — мы павінны вызваліцца ад дрэнных прывычак і кепскіх практык, якіх нельга пагадзіць з сучаснай, інтэнсіўнай, добра арганізаванай гаспадаркай. Давайце прызадумаемся разам. што мы павінны зрабіць, каб шэраг дробных спраў, якія нас нервуюць, псуюць добры настрой і самаадчуванне, можна было хутчэй выкінуць з нашага жыцця, а адначасова ўсе каштоўныя прапановы і ініцыятывы, якія павялічваюць эфектыўнасць працы і павышаюць узровень гаспадарнасці, маглі быць хутчэй і без непатрэбных перашкод ўведзены ў практыку. Імкненнем ВК партыі, а таксама ВК Фронту адзінства народу з'яўляецца тое, каб сучасная выбарная кампанія ў рады нарадовыя перарадзілася ў агульнаграмадскія дэбаты, мэта якіх — павялічыць эфектыўнасць гаспадарання, удасканаліць формы і метады загадвання, знаходзіць новыя рэзервы і ўказваць такія магчымасці.

Звяртаюся да насельніцтва Беласточчыны з заклікам прымаць шырокі ўдзел у пошуках новых рэзерваў, шляхоў і спосабаў, вядучых да павелічэння эфектыўнасці нашай гаспадаркі. Думаю, што пры дапамозе „Газеты Беластоцкай", радыёвяшчальнай станцыі можна будзе сабраць шэраг каштоўных ініцыятыў у банк добрых думак, якія праводзіўся б пад лозунгам „Можна лепш". Найцікавейшыя прапановы, вырашэнні і вопыт будуць публікавацца, распаўсюджвацца, а іх аўтары атрымаюць за гэта адпаведную сатысфакцыю.

Тав З. Куроўскі сказаў, што ёсць апрацаваны перспектыўны план развіцця нашага ваяводства, сягаючы 1990 года. Многа месца ў прамове прысвечана інвестыцыям, якія ў бліжэйшы час будуць праводзіцца на Беласточчыне. Ужо сёння падрыхтавана разбудова камбіната „Понарбяль" (ФПіУ), фабрыкі імя Сяржана. Разбудоўваюцца і мадэрнізуюцца фабрыкі ў Фастах, Васількове, Гарадку, Ломжы і Замброве. Шырокая мадэрнізацыя і разбудова праводзіцца на металазаводзе ў Чорнай Беластоцкай, КЗКС у Старасельцах, ЗНТК у Лапах і беластоцкай „Тэльзе". У Беластоку будуецца фабрыка ўпаковак, разбудоўваецца электрацяплоўня, ідзе падрыхтоўка да будовы ў Беластоку вялікай фабрыкі мэблі.

— Маем добрую і амбітную праграму, — сказаў на заканчэнне I сакратар ВК ПАРП. Ідзем з ёю да выбаршчыкаў, а яе рэалізацыя залежыць ад нас усіх. Няхай жа выбарная кампанія станецца перыядам актыўных пошукаў, як можна лепш працаваць, спраўней афармляць усе справы, якія знаходзяцца ў нашых руках.

Пасля выступлення тав. З. Куроўскага адбылася цікавая, жывая дыскусія.

Тэкст і фота **А. Карпюка**

**З краіны**

# Візіт партыйна-ўрадавай дэлегацыі БНР

Па запрашэнню ЦК ПАРП, Рады Дзяржавы і ўрада ПНР Польшчу наведала партыйна-ўрадавая дэлегацыя Балгарскай Народнай Рэспублікі пад кіраўніцтвам I сакратара ЦК Балгарскай камуністычнай партыі, старшыні Рады Дзяржавы БНР Тодара Жыўкава.

Сустракалі гасцей Э. Герэк, Г. Яблонскі, П. Ярашэвіч. Праехаўшы вуліцамі Варшавы, госці злажылі вянок на магіле Нязнанага Салдата, а потым адбылася сустрэча з польскім партыйным і дзяржаўным кіраўніцтвам. Вечарам Э. Герэк даў абед у чэсць высокага госця.

На другі дзень госці знаёміліся з Варшавай — былі на месцы будовы Лазенкоўскай трасы, у новым жыллёвым квартале Брудна, на фабрыцы Сварчэўскага, дзе сустрэліся з рабочымі.

У сераду балгарскія госці былі ў Велькапольшчы. Наведалі металургічны камбінат „Г. Цагельскі" ў Познані, прынялі ўдзел у сустрэчы з рабочымі.

На наступны дзень адбыўся вялікі мітынг дружбы ў кангрэсавай зале Палаца культуры і навукі ў Варшаве. На мітынгу выступілі Э. Герэк і Т. Жыўкаў.

16 лістапада візіт балгарскіх гасцей закончыўся. Урачыстае развітанне адбылося на аэрадроме „Акэнце". Прысутнічалі найвялікшыя партыйныя і дзяржаўныя ўлады на чале з Э. Геркам. (вл)

**З БССР**

# Ордэн Дружбы для Беларусі

Ад 11 па 14 лістапада гэтага года прабываў у Беларусі член Палітбюро ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР Аляксей Касыгін. Ён наведаў некаторыя прамысловыя прадпрыемствы ў Оршы, Магілёве і Мінску, пабываў на выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі, зрабіў паездку да мемарыяльнага комплексу „Хатынь" і Кургана Славы, дзе ўсклаў вянкі. 14 лістапада А. Касыгін прыняў удзел у рэспубліканскім сходзе партыйна-гаспадарчага актыву, у час якога ўручыў Савецкай Беларусі Чырвоны сцяг ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ, якім Беларусь узнагароджана за поспехі ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве за павелічэнне вытворчасці і нарыхтовак прадуктаў жывёлагадоўлі ў зімовы перыяд 1972/73 гадоў.

14 лістапада адбылося сумеснае ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта КПБ і Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, прысвечанае ўручэнню рэспубліцы ордэна Дружбы народаў. У пасяджэнні прыняў удзел таксама Аляксей Касыгін. Выступаючы з прамовай, ён між іншым адзначыў: „Беларускі народ карыстаецца вялікай павагай сваіх братоў — народаў Савецкага Саюза..." За высокую ўзнагароду падзякаваў I сакратар ЦК КПБ, тав. П. Машэраў. (вр)




**Niedziela 25.XI.**

7.20 Program dnia. 7.25 TV Kurs Rolniczy. 8.00 „Przypominamy, radzimy". 8.10 „Alarm przeciwpożarowy trwa". 8.20 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.45 „Bieg po zdrowie". 9.00 TELERANEK. 10.15 „Saquaro" — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć"). 10.40 „Antena". 10.55 „Aurum — Detronizacja?" — film dok. cz. II. 11.45 VII Krynicki Festiwal Arii i Pieśni im. Jana Kiepury. 12.15 Dziennik. 12.30 „Przemiany". 13.00 Dla dzieci: J. Żylińska — „Legenda o Liczyrzepie". 14.00 „Piosenka dla Ciebie". 14.50 „Radar". 15.00 „Wielka gra". 15.50 „Wspomnienia z lata" — pr. muz. 16.35 Losowanie Totolotka. 16.50 „Tele-Echo". 17.45 „Kryteria". 18.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Ostatni szturm" — film fab. radz. („Wyzwolenie") cz V. 21.25 **Magazyn** sportowy. 21.55 „Berlin zaprasza" (Międzynarodowa Wiosna Estradowa 73).

**Poniedziałek 26.XI.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.15 Program dnia. 16.20 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Olsztyński. 18.10 „Oferty". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: M. Gorki: — „Ostatni". 21.45 „Sezam". 22.20 Dziennik. 22.30 Utwory kameralne kompozytorów radzieckich.

**Wtorek 27.XI.**

10.00 „Noc błazna" — film franc. („Pani de Monsoreau") odc. III. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — M. Gorki — „Na dnie". 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Rodzina Durtolów" — film franc. odc. XI. 17.05 Program publicystyczny. 17.35 Telereklama. 17.40 Dla młodzieży: „Trzymamy straż nad Odrą" — rep. film. 18.05 Gra Orkiestra TV Katowice. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Warszawskie perspektywy" — **program publ.** 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Noc błazna" — film franc. („Pani de Monsoreau") odc. III. 21.10 „Interstudio". 21.50 „Artyści, których podziwiamy" — Halina Mickiewiczówna. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Środa 28.XI.**

8.45 „Jaskółki" — film fab. węg. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Zasady dynamiki". 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — „Rzeźba". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Węglowodany". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Harcerski raport". 17.10 Dla dzieci: „Dźwięki i czary". 17.40 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.55 „Spacerkiem po kinach". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Jaskółki" — film fab. węg. 21.30 „Biała lokomotywa" — rep. film. 21.50 „Show 21 3456/B" — autorski program rozrywkowy Zdzisława Leśniaka. **22.50 Dziennik. 23.05** Wiadomości sportowe.

**Czwartek 29.XI.**

10.00 „Prawda" — film fab. franc. 13.30 TV Kurs Informatyki: Zasady programowania komputerów (II). 14.00 Matematyka w szkole. 15.10 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 15.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.15 Program dnia. 16.20 PKF. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 „O tańcu polskim czyli tak przezwanym polonezie" („Chata pełna muzyki"). 18.20 Telereklama 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Mazowsze dziś i jutro" — program publ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Prawda" — film fab. franc. 22.20 Dziennik. 22.35 „Gratulujemy" — program rozr. 23.25 Wiadomości sportowe.

**Piątek 30.XI.**

10.00 „Ostatni szturm" — film fab. radz. („Wyzwolenie") cz. V. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysposobienie obronne. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 Telereklama. 17.50 Dla młodzieży: Tygodnik Informacyjny Młodych. „Dwie szkoły" — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Konsylium" cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Śpiewa Mieczysław Mierzejewski. 20.50 „Panorama". 21.30 Teatr TV: A. Salacrou — „Ruch jednokierunkowy". 22.30 „Konsylium" cz. II. 22.45 „Informacje, Towary, Propozycje". 23.00 Dziennik. 23.15 Wiadomości sportowe.

**Sobota 1.XII.**

8.35 „Czego się nie robi, żeby dostać spadek" — film fab. ang. **10.00** Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Pasożyty". 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Gospodarcze oblicze Kanady". 14.20 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 14.55 **TV** Technikum Rolnicze: Chemia. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodzieży: A. De Saint Exupêry — „Mały Książę". 17.25 „Z kamerą wśród zwierząt". 17.55 „Wychowanie fizyczne receptą na zdrowie". 18.20 „Kwadrans akademicki". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Dla górników — W rytmie na **3/4". 21.25 „Czego się** nie robi, żeby dostać spadek" — film fab. ang. 22.50 Dziennik. 23.05 Wiadomości sportowe. 23.15 „Ballady Franciszka Villona".

**Мой родны кут, як ты мне мілы!..**
**Забыць цябе не маю сілы!**
**Не раз, утомлены дарогай,**
**Жыццём вясны мае убогай,**
**К табе я ў думках залятаю**
**I там душою спачываю.**

**Якуб Колас**

Пачатак на стар. 1




— Перш за ўсё я хацеў бы падкрэсліць маё зацікаўленне праблематыкай, якая, здаецца мне, з'яўляецца істотнай для тэарэтычных і практычных, прыгодных для гаспадаркі патрэб; менавіта было гэта зацікаўленне паказчыкамі гаспадарчага ўзросту і метадамі лічэння тэмпа гэтага ўзросту.

Мае дасягненні, як вы сказалі, сталіся магчымымі бадай таму, што я трапна выбраў аб'ект сваіх доследаў. Часта кажуць, што людзі з сялянскіх асяроддзяў натрапляюць на значныя перашкоды ў навуковай працы. Многа ў гэтым праўды, але сялянскае жыццё выпрацоўвае такія рысы характару, як сістэматычнасць, упартасць, а гэта ж у сваю чаргу спрыяльны фактар для навуковай дзейнасці.

— На суперабложцы Вашай габілітацыйнай дысертацыі рэдакцыя Эканамічнага дзяржаўнага выдавецтва (PWE) звяртае ўвагу на тое, што аўтар „Прадстаўляе таксама ўласны метад лічэння нормы ўзросту, ілюстрацыяй якога з'яўляецца табліца сярэдняга гадавога тэмпа ўзросту...“ Вельмі просім сказаць, у магчыма сціслай форме, у чым заключаецца сэнс і значэнне гэтага метаду, які ў рэцэнзіях[3]), згодна, зрэшты, з Вашым акрэсленнем, называюць метадам.

— Метад гэты дазваляе атрымаць матэматычным шляхам адказ на пытанне, як хутка змяняюцца канкрэтныя эканамічныя катэгорыі, напрыклад, нацыянальны даход, вытворчасць паасобных прадуктаў, зарплата і г.д.; інакш кажучы, які тэмп развіцця гэтых катэгорый. Прымяняемы ў практыцы метад (сярэдняй геаметрычнай) бярэ пад увагу толькі пачатковую і канчатковую вартасць. Мой метад патрабуе ўлічвання вартасцей прамежных перыядаў. Паяснім гэта на прыкладзе: скажам, што нейкі грамадзянін, назавем яго А, на працягу 5 гадоў атрымаў зарплату (у працэнтах): 100, 100, 100, 100, 200, а другі грамадзянін, назавем яго Б: 100, 200, 200, 200, 200. Карыстаючыся традыцыйным метадам, мы дойдзем да пераканання, што ў адным і другім выпадку зарплата ўзрастала ў тым самым тэмпе. У сапраўднасці шпарчэйшы тэмп узросту зарплаты выступае ў грамадзяніна Б, але гэта можна сцвердзіць толькі пры дапамозе майго метаду, традыцыйны метад такой розніцы не вылаўлівае. Так, зразумела, вельмі ўпрошчваючы праблему, можна адказаць на пытанне пра сэнс метаду.

— А ці не сказалі б Вы, як сакратар вузаўскага камітэта ПАРП Варшаўскага універсітэта, многагадовы сакратар наборачнай камісіі гэтага ж універсітэта, хоць бы некалькі слоў аб сваёй грамадскай працы?

— Думаю, што каб займацца грамадскай працай, трэба мець да гэтага натуральныя схільнасці характару і, зразумела, адчуваць, што такая дзейнасць патрэбна. Мая грамадская праца найбольш звязана з дзейнасцю ў Саюзе польскай моладзі (ЗМП) — гэта школьныя і студэнцкія гады, а потым — у ПАРП. Грамадская дзейнасць прымушае дзяліць час паміж ёю і прафесіянальнай працай, дае аднак вялікае задавальненне.

Да нашай размовы прыслухоўваецца, пакінуўшы на момант счытванне аўтарскай карэкты падрыхтоўваемага да друку эксперыментальнага падручніка хіміі для хімічных тэхнікумаў, жонка дацэнта, др Эльжбета, таксама навуковы супрацоўнік Варшаўскага універсітэта, вядомы прафсаюзны дзеяч гэтага вуза.

Гэтым разам стаўлю пытанне для абодвух:

— Ці ўдаецца Вам, пры такой колькасці навуковай і грамадскай працы, рацыянальна арганізоўваць свой адпачынак?

— Ну, што ж, — кажа др Эльжбета, — турысцкія паездкі сталі магчымымі толькі ад 1971 года.

— Пасля таго, як бацькі мае, якія пражываюць у маёй роднай вёсцы Шчыты, што на Бельшчыне, — дадае дац. І. Цімафеюк, — перадалі гаспадарку дзяржаве за пенсію. Да гэтага года водпускі мы праводзілі на вёсцы, працуючы ў бацькоў. Гэта быў адпачынак ад разумовай працы і гарадскога жыцця, але не гэтым кіраваліся мы, едучы на вёску, — абавязкам нашым было дапамагчы бацькам у іх цяжкой сялянскай працы, асабліва ва ўборачны перыяд, а ў размовах з сябрамі чуліся жарты, што мы, па прыкладу „сялянарабочых“, сталіся прадстаўнікамі новай прафесіі, якую можна назваць „вучонасяляне“. Бацькі, пакуль мелі сілы, заўсёды стараліся добра гаспадарыць. Лічылі, што зямля павінна быць так дагледжанай, каб давала добрыя ўраджаі.

Гутарка набліжаецца да канца. Дзякую за размову.

— Сардэчнае прывітанне Беласточчыне, — чую на развітанне.

Гутарку правёў
**Мікалай С. Врублеўскі**

1) Igor Timofiejuk
**Mierniki wzrostu gospodarczego. Wydanie drugie, przejrzane i uzupełnione. Państwowe Wydawnictwo Ekonomiczne. Warszawa, 1973.**

2) Igor Timofiejuk
**Stopa wzrostu gospodarczego. Metody liczenia. Państwowe Wydawnictwo Ekonomiczne. Warszawa, 1973.**

3) Напрыклад:
**„Życie gospodarcze” Nr 35 z 2.IX.1973**

## СУСТРЭЧЫ З КАНДЫДАТАМІ Ў РАДЫ НАРАДОВЫЯ






Быў шэры асенні надвячорак, калі мы сустрэлі Янку Асіпюка — трактарыста з сельскагаспадарчага кааператыва ў Крывой Бельскага павету. Пасля працавітага дня пры звозцы бручкі з поля ён ужо кіраваў трактар у гараж. Відаць было, што хлопец змучаны і празяблы, але калі пайшла ў нас гаворка пра навіны ў іхнім кааператыве, ён адразу ажывіўся.

— Наш кааператыў спецыялізуецца ў гадоўлі. Маем каля 200 дойных кароў і маладняку, каля 100 авечак, дзве вялікія птушкафермы ў Зубаве і Кнаразах. І на палях таксама ўсё спорыцца. Збожжа дало амаль па 40 цэнтнераў з гектара, удаліся цукровыя і кармавыя буракі, бручка. Людзі ў нас жывуць заможна. У большасці членаў кааператыва ёсць тэлевізары, радыёпрыёмнікі, пралькі, пыласосы. І легкавыя машыны паяўляюцца, маюць іх ужо Рыгор Стральчук і Анатоль Гаркавы, іншыя таксама намерваюцца набыць. І будуюцца людзі. Прасторныя, светлыя, зусім не горшыя, чым у горадзе, муразанкі з цэнтральным абаграваннем і водаправодам ставяць Піліп Асіпюк, Уладзімір Весялоўскі, Янка Петручук, Анатоль Раманюк...

Янка Асіпюк — малады чалавек, нарадзіўся ён у 1951 годзе ў сям'і члена кааператыва. Пачатковую школу закончыў у сваім родным сяле, потым — курс трактарыстаў у ПОМ-е ў Бельску Падляшскім і вось ужо другі год працуе на трактары „Урсус Ц-330“. Актыўны, старанны, дбайны. Моладзь з гуртка Саюза сацыялістычнай сялянскай моладзі ў Крывой выбрала яго сваім старшынёю.

— Як разгортваецца праца ў вашым гуртку?

— Членаў маем нямнога, усяго 12 чалавек. Але гэта моладзь актыўная, з ініцыятывай. У часе жніва працавалі ў полі. Цяпер намерваемся будаваць святліцу. Ужо грамадскім чынам навазілі жвіру, ёсць таксама 70 тысяч злотых на пабудову. Выбралі і адобрылі праект будынку, будзе ў ім глядзельная зала са сцэнай, пакой на рэпетыцыі, бібліятэка і іншыя памяшканні. Восенню моладзь садзіла дрэўцы паабапал дарогі з сяла да шашы. Праводзім вечарыны з віктарынамі, арганізуем і танцавальныя вечары, каб мець за што купіць у новую святліцу магнетафон і праігрывацель, пласцінкі, настольныя гульні. Нядрэнна ў нас таксама і са спортам. Наша футбольная каманда займае адно з добрых месц у павеце. Сёлета выйгралі з Мокрым, Міклашамі, Казламі. Маем добрага нападаючага Леаніда Башуна і варатар наш Васіль Раманюк таксама не падводзіць. Трэніруемся і іграем на сваёй спартыўнай пляцоўцы, што самі пабудавалі.

(Працяг са стар. 1)

## З ВОПЫТУ НАЧАЛЬНІКА ГМІНЫ



сельнік і амаль трыццаць сялян з іншых вёсак.

У распараджэнні гміны застаюцца цяпер фінансавыя сродкі на падтрымку грамадскіх чынаў. Выкарыстоўваем іх, каб пабудаваць святліцу ў Старым Корніне і Грабаўцы, каб упарадкаваць дарогі ў вёскі Ягаднікі і Вітава. Гэта дае нам магчымасць больш аператыўна выконваць нашу арганізатарскую дзейнасць.

— Якое рашэнне найцяжэй было вам падпісаць?

— Начальнік гміны амаль кожны дзень вымушаны рашаць цяжкія праблемы. Мне дапамагаюць у гэтым добра падрыхтаваныя людзі, якія цяпер працуюць у выканаўчым апараце гміны. Я таксама заўсёды раюся з мясцовымі актывістамі і павятовымі ўладамі. Аднак адказнасці за мае рашэнні ніхто з мяне зняць не можа. Вось ужо на пачатку сваёй працы на пасадзе начальніка прыйшлося мне ануляваць звыш 300 тысяч злотых незаплачанага зямельнага налогу. І я гэта рашэнне прыняў, хаця ведаў, што за яго мяне не пахваляць, але быў перакананы, што яно абсалютна патрэбна, каб задоўжаныя сяляне ўвогуле маглі надалей гаспадарыць.

Пакідаў я Дубічы Царкоўныя ўжо вечарам. У мокрай асфальтаванай вуліцы пераліваласся электрычнае святло.

— Шырокай вам дарогі, — сказаў на развітанне начальнік Дубіцкай гміны.

— І вам таксама! — адказаў я яму.

**Віктар Рудчык**

Беларуская ЛІТАРАТУРА
АЛЯКСАНАР БАРШЧЭЎСКІ

## Нашаніўская пара

### ЯДВІГІН Ш. — ЧАСТКА XVIII

**Публіцыстыка.** Сустракаючыся з фактам распродажу сялянам панскай зямлі, Ядвігін Ш. ставіцца да яго наогул адмоўна. Ідэйная пазіцыя аўтара ў даным выпадку даволі няясная. Ядвігіну Ш. не падабаецца тое, што распадаюцца вялікія панскія гаспадаркі на вузкія сялянскія шнуры, што сяляне будуць жыць паасобку, а не супольнай вялікай грамадой. Такія закіды гучаць, амаль як заклік да калектыўнага гаспадарання. Аднак, ведаючы ідэалогію пісьменніка, цяжка было б прыпісваць яму імкненне да калектыўных форм сялянскага жыцця. Паслухайма пісьменніка: „Сумна. Не дзеля таго сумна, што веліч гэтага двара гіне... а сумна, што гэтыя дубы гінуць не пад навалай культуры, а ад сваёй уласнай парахні... А чаму? Бо прышла сюды свядомая грамада людзей, а прыйшлі яны ўрассыпную і жыць будуць урассыпную, не для агульнага дабра, а кожны сабе, кожны паасобку.

...Там, дзе даўней пры добрай машыне, культурнай гаспадарцы ў адзін дзень пры малой працы клаліся сотні снапоў, цяпер дзеля гэтых самых снапоў пойдуць сотні людзей набіваць мазалі, падрываць свае высахшыя грудзі, класці хлеб на ахвяру свайго здароўя, дый ад зямлі не здолеюць узяць таго, што можна.

...Так будзе датуль, пакуль кожны з нас не зразумее, што нават у шчасці жыць самому і толькі дзеля сябе нельга. Трэба, каб жаданне грамады было маім жаданнем, яе доля — маёй доляй, яе шчасце — маім шчасцем, яе думкі — маімі, яе святло — маім“.

Асобнай праблемай, якая займае сур'ёзнае месца ў публіцыстыцы Ядвігіна Ш., з'яўляецца справа інтэлігенцыі. У многіх выпадках звязана яна з нацыянальным або сялянскім пытаннем.

Ядвігін Ш. балюча перажываў тое, што беларуская інтэлігенцыя, вырасшая з сялянства, абыякава або нават варожа адносілася да беларускай мовы і да культурных патрэб беларускага сялянства.

Паслухайма, як пісьменнік характарызуе беларускіх інтэлігентаў-выхадцаў з народа. „Але жаль, вялікі жаль я маю да тых, хто, як тыя курчаты, вылупіўшыся пад саламянай страхой, за апошнія бацькаўскія крывавыя грошы прыждалі надзець модныя з бліскучымі гузікамі курткі, дый цяпер цураюцца сваёй роднай мовы. Але, калі ўжо дагэтуль мова беларуская захавалася і жыве, то жыць будзе, то ёсць і гаспадар яе — гэта сам народ, а як не гіне народ з нацыянальнай душой, то і не загіне беларускі народ“.

У „Лістах з дарогі“ выступае тыпова народніцка-пазітывістычны заклік пісьменніка ў адрас інтэлігенцыі, якая павінна ісці пад сялянскія стрэхі і несці туды прамені асветы і навукі. Вось адзін з такіх заклікаў:

„Дык не цурацца, не заракацца трэба гэтага народа, а ісці на сустрэчу яго жаданням, яго думкам. Хай кожны, каму дораг свой родны край, загляне хоць у бліжэйшыя вёскі, загляне пад падгніўшыя стрэхі хатак, хай дзеліцца сваімі думкамі, радамі, вестачкамі, а пэўне сустрэне там прыхільнасць.

...Хай кожны святлейшы чалавек ідзе паміж гэтага народу і запальвае паміж яго светач навукі, свядомасці і справядлівасці і гэткім парадкам сплачае хоць частку таго доўгу, які ён зацягнуў перад роднай сваёй старонкай, каторая ўскалыхала і ўзгадавала яго“.

Досыць рэзка асудзіў Ядвігін Ш. сістэму асветы ў Беларусі і тое, што даволі часта адукаваныя асобы высылаюцца ўладамі ў далёкія куткі імперыі:

„Моладзь ірвецца да прасветы, але тыя рамкі, у якіх уціснута цяпер навука нашых школ, даюць столькі карысці, колькі можа мець галодны чалавек, калі яму вымазаць вусны салам. Дык і вучаць там, як вядома, не ў роднай беларускай мове, а ў расійскай.

...Бывае яшчэ горш, прыходзіцца кідаць родную старонку і шукаць хлеба на чужыне. А гэта найбольшая страта, якая можа быць для вёскі; бо гэткім парадкам вызбываюцца суседзі разумнейшых з паміж сябе людзей, каторыя мо патрапілі б кіраваць не адзін прамень святлейшы ў сваю вёску“.

Прыведзеныя фрагменты „Лістоў з дарогі “ Ядвігіна Ш. заключаюць у сябе толькі частку тых шматлікіх праблем, якія выступілі ва ўсёй публіцыстыцы пісьменніка.

Аднак ужо са сказанага вынікае, што тэматычны круг публіцыстыкі Ядвігіна Ш. вельмі шырокі. Амаль усе істотныя праблемы сацыяльнага, культурнага і нацыянальнага жыцця Беларусі знайшлі ў ёй большае або меншае адлюстраванне. Канчаючы інфармацыю аб публіцыстыцы пісьменніка, трэба сказаць, што выступілі ў ёй характэрныя і для яго мастацкай творчасці непаслядоўнасць і абмежаванне.

